Жыве Беларусь!



# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№62(575) 31 сакавіка 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 617944 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Польша в Беларуси Эльжбета Смулэк и заместитель министра иностранных дел нашей республики Владимир Остапенко обменялись 30 марта ратификационными грамотами договора о добрососедстве и дружественном сотрудничестве.**

Так вступил в действие главный политический документ, подписанный 23 июня 1992 года в Варшаве руководителем белорусского парламента Станиславом Шушкевичем и польским президентом Лехом Валенсой.

❑

**Сессия Верховного Совета России рассмотрела вчера на совместном заседании палат некоторые указы Ельцина.**

В частности, указ от 20 марта, который позволяет президенту править при помощи указов до урегулирования кризиса власти в стране.

❑

**Министр обороны России Грачев посетил вчера штаб-квартиру НАТО в Бельгии.**

Он встретился с главнокомандующим объединенными силами Североатлантического союза в Европе генералом Шаликашвили. Обсуждались проблемы безопасности, возможности совместных миротворческих операций.

❑

**Министры обороны Литвы и Эстонии выступили с заявлением на встрече стран—членов НАТО, проходившей в Брюсселе.**

В нем подчеркивается, что решение российского руководства о приостановлении вывода войск из Прибалтики идет в разрез с его предыдущими заверениями и противоречит международному законодательству.

❑

**Соглашение между сербами, мусульманами и хорватами о прекращении огня с 29 марта в Боснии вчера соблюдалось.**

Были зарегистрированы лишь отдельные пулеметные перестрелки на окраине Сараево.

❑

**Начался последний этап вывода российских войск с Кубы.**

Вывод войск, начавшийся с ноября 1992 года, должен закончиться к июлю.

❑

**Соглашения о свободной торговле с Болгарией и Венгрией подписаны в женевской штаб-квартире Европейской ассоциации свободной торговли (ЕАСТ).**

Они предусматривают постепенное устранение таможенных и иных барьеров в торговле промышленными товарами, продуктами сельского хозяйства, рыбной и морской продукцией между этими странами и семеркой членов ЕАСТ.

### Трагические разборки?

**Ночью на территории Бохтарского района Таджикистана при таинственных обстоятельствах погибли председатель Народного фронта республики Тангак Зафаров и один из его сподвижников полевой командир Файзали Зарипов.**

На их телах обнаружены огнестрельные раны. О причинах трагедии говорить рано, но, по мнению военных, наиболее вероятно, что смерть наступила в результате ссоры.

Как сообщает ИТАР—ТАСС, в последнее время между соратниками произошло несколько крупных ссор. Файзали Зарипов, несмотря на призыв Тангака Зафарова о разоружении своих вооруженных формирований и подчинении их правительству республики, отказался сделать это и вернулся на родину в Бохтарский район.

**Галина ГРИДНЕВА.**

### С такими процентами и душу заложишь

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 785 | 785 |
| Немецкая марка | 474 | 474 |
| Английский фунт | 1093 | 1093 |
| Финская марка | 125 | 125 |
| Французский франк | 133 | 133 |

Что ж, доллар уже перескочил черту в 800 рублей. Самый высокий курс скупки его был во вторник в банке "Беларусь" — 850 рублей.

❑

Торги кредитами Национального банка на Белорусской фондовой бирже вчера оказались для большинства предпринимателей полной неожиданностью.

Теперь ставки за трехмесячный кредит поднялись до 226 процентов. Всего же было продано 1 миллиард 630 миллионов рублей.

Безналичный же российский рубль вчера не подорожал, и разница между ним и белорусским рублем по-прежнему составляет 41 копейку.

**Антон ЧЕКОВ.**

### Неблагоприятные дни апреля

**(по данным лаборатории медико-экологических проблем, профилактики Института клинической и экспериментальной медицины Сибирского отделения АМН России для переутомленных, ослабленных болезнями людей)**

***3, 6, 9, 19, 25, 27.***

В эти дни ожидаются резкие изменения погодных факторов. Накануне и в неблагоприятный день метеозависимым больным следует обратить внимание на свое самочувствие. Для профилактики принимайте лекарственные препараты, назначенные врачом, а также настой брусники и можжевельника.

**Антонина КАРОЗА, научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**

### Бензин будет. Но...

**Вчера в Москве прошло совещание руководителей топливно-энергетических комплексов стран—участниц межправительственного совета по нефти и газу СНГ.**

Ряд объединений Сибирского нефтедобывающего региона предложили странам СНГ выделить дополнительные средства на развитие отрасли в размере свыше 47 миллиардов рублей.

По итогам совещания подписан пакет документов, регулирующих конкретное участие каждой страны в стабилизации топливно-энергетического комплекса России.

**Игорь ИВАНЦОВ.**

### Рада реставрации не рада

**Исполком Центральной рады Белорусской социал-демократической громады принял обращение "О нынешней деятельности коммунистов".**

Отмечается, что "КПБ и ее двойник ПКБ" выступают за откат к старым командным методам, реставрацию СССР и возвращение в "колониальное положение союзной республики". Исполком ЦР считает, что в Беларуси сегодня есть место только для объединения коммунистов, которые выступают за независимость, демократию и правовое государство.

Кстати, в связи с тем, что 11 апреля пройдут выборы народного депутата республики по Хотимскому избирательному округу N 307, исполком Центральной рады БСДГ призывает голосовать за председателя ЦР Белорусской крестьянской партии Евгения Лугина.

**Константин УЛЬЯНОВ.**

### Бобруйск: маленький филиал Сахары

**"Металлисты", добывающие заветную медь где и как угодно, уже стали обыденностью. Но то, что произошло в Бобруйске, как говорится, ни в какие ворота...**

А случилось следующее: неизвестные вывели из строя водозаборы, обеспечивающие город водой. На одном из них они срезали медный кабель, а на втором демонтировали все низковольтное оборудование.

**Борис МИХЕЕВ.**

### Кто сказал, что мы звезд с неба не хватаем?

**Мексиканский национальный институт маркетинга присудил очередную Международную бриллиантовую звезду за качество белорусским производителям.**

На этот раз звезда "упала" на производственное объединение "Беларуськалий". После проверки качества калийных удобрений, производимых в мире, дотошные "профи" из мексиканского института признали превосходство за "Беларуськалием".

**Юрий НОЯРОВИЧ.**

### Спорт-экспресс

Наталья Зверева из Беларуси и американка Джиджи Фернандес победили в парном разряде среди женщин на международном турнире по теннису с призовым фондом 175 тысяч долларов.

Они нанесли поражение Ларисе Нейланд (Латвия) и Аранте Санчес (Испания) — 7:5, 6:3.

Победительницы получат приз — 65 тысяч долларов.

❑

В Риге завершился чемпионат Европы по хоккею среди юношеских команд в группе "С". Сборная Беларуси в финальном турнире свела вничью игру со сборной Словении и выиграла у сборной Словакии. Заняв первое место, она добилась права в следующем году играть в группе "В" чемпионата.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Ці чакаюць нас у саюзе шчасце і ваенная бяспека?

**Мікалай ГАЛКО**

### Хроніка дня

Ажно 51 дэпутат пажадаў удзельнічаць у спрэчках па дакладах, што былі прачытаны Шушкевічам, Кебічам і Багданкевічам на мінулым тыдні. Дзеля эканоміі часу адмянілі "Рознае".

Першым узяў слова Старшыня Савета Міністраў. Ён імкнуўся натхніць сваіх прыхільнікаў.

Дэпутат Лявон Баршчэўскі сцвярджаў, што беларускі ўрад толькі імітуе рух да рынку, што небяспечна давяраць кіраўніцтва ўрадам людзям няшчырым.

Спробай уцячы ад адказнасці назваў даклады вышэйшых асоб дзяржавы дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Ён жа абвінаваціў прэм'ер-міністра ў кан'юнктуршчыне і прапанаваў дзейнасць Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча прызнаць нездавальняючай.

На думку дэпутата Віталя Малашкі, урад падпісаў нямала эканамічных дагавораў, але не здолеў іх ажыццявіць.

За неабходнасць цеснага ваенна-эканамічнага саюза агітавалі дэпутатаў генеральныя дырэктары мінскіх прадпрыемстваў Віл Ганчароў і Міхаіл Лаўрыновіч. Апошні, напрыклад, выказаў меркаванне, што канверсія — справа далёкага будучага, а ад рынку на Беларусі засталася толькі адна назва, якую пакуль што не забаранілі вымаўляць.

Патрабаванні аб адстаўцы Шушкевіча і Кебіча дэпутат Мікалай Грынёў назваў беспадстаўнымі, бо грамадству патрэбна згода. Без цеснага саюза з Расіяй, на яго думку, прадпрыемствы спыняцца зусім. У тых ці іншых варыянтах ідэю аб'яднання адстойвалі таксама Яўген Пахілка, Іван Жыдзіляеў, Уладзімір Дражын, Валянцін Вялічка, Анатоль Мардашоў, Мікалай Лобач, Мікалай Лакцюшын, Альфонс Цішкевіч.

Супрацьлеглая пазіцыя ў дэпутатаў Лявона Зданевіча, Мікалая Крыжаноўскага, Барыса Гюнтэра, Алега Трусава, Генадзя Маісеева, Віктара Какоўкі, Уладзіміра Заблоцкага, Зянона Пазьняка.

Спрэчкі працягваліся і на вячэрнім пасяджэнні.

### Асабісты погляд

На чарговы зігзаг жыццёвых цяжкасцей Вярхоўны Савет адказвае працяглымі дэбатамі — любяць пагаварыць нашы дэпутаты. Пра ўсё на свеце. Мікалай Лобач, напрыклад, усур'ёз даводзіў калегам, што гандлем кіруюць ... журналісты. Мікалай Лакцюшын, зрабіўшы рэверанс у бок прэм'ер-міністра, маўляў, ён адзіны чалавек, які стаіць на рэальнай глебе, рэзка выказаўся супраць дзяржаўнай мовы, ад якой, на яго думку, не прыбавіцца газы для самалётаў...

Настрой большасці дэпутатаў вядомы. Яна — з аднадумцаў і падначаленых Вячаслава Кебіча. Таму тое, што гаворыць прэм'ер-міністр, забяспечана падтрымкай.

Зразумела, толькі дзікун можа выступаць супраць нармальных эканамічных зносін з іншымі краінамі, а тым больш з добрымі суседзямі. Тут, як кажуць, няма варыянтаў.

Але неяк горка слухаць палітычныя абвінавачванні, заклікі, што без саюза нам не выжыць, у той час калі парламент не шукае адказу, чаму не выкананы двухбаковыя пагадненні, дзе тыя танныя расійская нафта і казахстанскае збожжа, чаму (як сцвярджалі некаторыя прамоўцы) Расія адмаўляе нам у ваенных пастаўках і ў той жа час гандлюе зброяй з усім светам...

Мне здавалася, што ўсім добра вядома, чаму мы, былыя савецкія людзі, былі самымі беднымі ў цывілізаваным свеце. Не ў апошнюю чаргу таму, што замест дамоў, аўтамабіляў і іншых даброт у неймавернай колькасці рабілі ракеты, хімічную зброю, падводныя лодкі. А Беларусі, як пярэдняму краю абароны, заставалася толькі апрануць камуфляжную форму. І вось нас зноў цягнуць у ваенны саюз, каб мы маглі ад некага абараніцца, але цягнуць без эканамічных, філасофскіх, паліталагічных выкладак, разлікаў.

Адзіны аргумент — "без ваеннага саюза нам не будуць даваць, без яго з намі не будуць лічыцца". Аргумент, прабачце, зусім лёгкі, тут нават у сур'ёзныя дыскусіі ўступаць нельга.

Ды і пра магчымасці тых, з кім мы збіраемся будаваць новую суполку, нічога адметнага на сесіі не гучала. Быццам нашым вёскам дапамогуць пакладзеныя на лапаткі пскоўскія, смаленскія, уральскія вёскі, быццам Расія сама купаецца ў нафце...

Эканамічны саюз, безумоўна, патрэбны, але ці патрэбны такі палітычны спектакль, у якім бамбардзіруецца пагадненне ў Віскулях (дзе, дарэчы, акрамя Шушкевіча, прысутнічаў і Кебіч), ствараецца спрыяльная атмасфера для сталінцаў і неакамуністаў? Цяжкая гэта справа — думаць і прыдумваць нешта новае. Але ж на дэпутатаў ускладзены менавіта такі абавязак.

## Хопіць з нас войнаў!

### Зварот да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Апошнім часам шмат гаворыцца аб неабходнасці стварэння эканамічнага саюза з дзяржавамі, якія ўваходзяць у СНД. Але побач з разумнымі прапановамі часта гучаць заклікі, нават з вуснаў кіраўнікоў самага высокага рангу, аб удзеле Беларусі ў сістэме калектыўнай бяспекі, гэта значыць аб уступленні яе ў ваенны саюз з Расіяй, краінамі Сярэдняй Азіі і Закаўказзя. А гэта азначае прамое парушэнне канстытуцыйнага палажэння аб нейтралітэце Рэспублікі Беларусь.

Гэта азначае дадатковую нагрузку на эканоміку і фінансы Беларусі і дадатковае паніжэнне жыццёвага ўзроўню народа.

Гэта азначае, што нашы беларускія хлопцы ў вайсковай форме зноў будуць пасылацца ў гарачыя кропкі, каб тушыць канфлікты сваёй крывёю і гінуць за невядомыя чые інтарэсы.

Абгрунтоўваючы неабходнасць стварэння ваеннага саюза, звычайна спасылаюцца на прыклад Швецыі і Фінляндыі, якія нібыта адмаўляюцца ад свайго традыцыйнага нейтралітэту. Але ж гэтыя дзяржавы ўступаюць у эканамічнае Еўрапейскае супольніцтва, а не ў ваенны саюз НАТО.

Наша маленькая рэспубліка і так ужо сёмы год вядзе вайну за сваё фізічнае існаванне з наступствамі Чарнобыля. Вядзе адна, сам-насам з бядой, пакінутая ўсімі. Мільёны людзей жывуць там, дзе нельга жыць з-за радыяцыі, таму што ў нас не хапае сродкаў дапамагчы гэтым людзям. Уступленне ж у ваенны саюз толькі пагоршыць становішча.

Мы заклікаем Вярхоўны Савет Беларусі і Савет Міністраў строга прытрымлівацца нейтралітэту, як гэта зафіксавана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Мы заклікаем увесь народ Беларусі падтрымаць наш зварот.

**Т.ГРУДНІЦКАЯ, І.АНТОНАВА, Л.САС, В.КРАЎЦОЎ, В.АНТАНОВІЧ і іншыя народныя дэпутаты Навапалацкага гарадскога Савета, усяго 55 подпісаў.**

### От редакции:

**Уважаемые читатели, пусть вас не пугает объем статьи, которую предложили нам ученые А. Михалевич, Ф. Молочко и А. Ставров. Они затронули очень большую проблему, которая уже встала перед республикой, но пока еще почти не затронула интересы рядовых граждан. Но это сегодня. А что будет завтра? Ответить на этот вопрос и пытаются наши авторы...**

*Компетентное мнение*

## И окунется Беларусь во тьму,

### если мы вовремя не разберемся, в каком положении находится наша энергетика, что нужно сделать руководству республики, чтобы Беларусь избежала энергетического кризиса...

**Александр МИХАЛЕВИЧ, директор Института проблем энергетики АН Беларуси, Федор МОЛОЧКО, директор Белорусского теплоэнергетического института, Андрей СТАВРОВ, директор Республиканского научно-учебного и информационного центра по проблемам радиационной безопасности, энергетики и радиоэкологического образования Академии управления при Совете Министров Республики Беларусь**

Развал СССР и обретение нашей республикой политического суверенитета ставит перед нами вопрос и об экономической независимости, без которой немыслимо само существование самостоятельного государства.

Наша республика, к сожалению, принадлежит к тем регионам СНГ, которые практически полностью лишены собственных топливно-энергетических ресурсов. Если учесть все возможные виды топлива — нефть, добываемую на юге Беларуси, попутный газ, торф, дрова и даже отходы лесозаготовок, то это составляет едва лишь 12 % от общих потребностей нашего хозяйства. Это означает, что республика находится почти в полной зависимости от поставок энергоресурсов из других стран. Кроме того, нам не хватает электроэнергии, и необходимо почти четверть ее закупать в России (Смоленская АЭС) и Литве (Игналинская АЭС). Следует также иметь в виду, что в республике большинство местных электростанций в ближайшее время выработает свой ресурс и их необходимо выводить из эксплуатации.

Какие же пути решения этой проблемы возможны в принципе? Фактически их можно свести к двум основным направлениям: увеличение производства энергии в республике из закупаемых топливно-энергетических источников или импорт электроэнергии из других стран. Первое направление включает в себя развитие и модернизацию традиционной энергетики на органическом топливе, энергосбережение, нетрадиционную энергетику.

В настоящее время сложилось превратное впечатление о роли энергосбережения в республике. Бытует точка зрения, что достаточно приложить усилия к экономии энергии и все или почти все проблемы будут решены. Но как показывает опыт развитых стран, которые в результате энергетического кризиса 70-х годов серьезно взялись за дело энергосбережения, экономия энергии — это далеко не только "Не забудьте выключить телевизор!" или "Уходя, гасите свет!". Это в первую очередь революционная перестройка всей промышленности, сельского хозяйства, коммунальных служб, создание новых технологий, производство и выпуск принципиально новых видов продукции — от электрических лампочек до станков. На такое перевооружение уходят миллиардные средства, годы и десятилетия. А энергия необходима именно сейчас, в самые ближайшие годы. Кстати, и для того, чтобы подобное перевооружение можно было осуществить.

Не меньше заблуждений существует и в отношении нетрадиционных источников энергии. Многие считают, что, используя энергию солнца, ветра, малых рек, отходов животноводства и других так называемых неисчерпаемых или возобновляемых ресурсов, можно решить все проблемы обеспечения теплом и светом населения республики.

Однако если проанализировать истинное положение дел во всем мире, то даже самые оптимистичные прогнозы говорят, что едва ли 10—15 % от общей потребности могут быть покрыты за счет таких источников. В действительности же, как показали оценки различных специалистов и организаций, в нашей республике, где нет больших рек, мало солнечных дней и средняя скорость ветра составляет около 4 м в секунду, возобновляемые и нетрадиционные источники могут в лучшем случае сэкономить в ближайшие годы 200—400 тыс. тонн условного топлива, что составляет не более 1 % от общих потребностей в топливно-энергетических ресурсах.

Определенные надежды в свое время связывали с открытыми в республике месторождениями бурых углей и сланцев. Однако низкая калорийность и высокая зольность исключают возможность их использования в большой энергетике. Возможно лишь использование бурых углей в брикетах (как вариант — совместно с торфом) в качестве коммунально-бытового топлива, что составит не более 7 % от потребности для этих целей.

(Окончание на 2-й стр.)



*Ало, вас слухае "Народная газета"*

## Найбольшы боль...

**Віктар ХАРОШКА**

Чатыры гадзіны правёў я каля "гарачага тэлефона" рэдакцыі. Што хвалюе нашых чытачоў? Аб чым ішла размова?

Першыя абаненты выказалі абурэнне тым, што паніжаецца жыццёвы ўзровень многіх катэгорый насельніцтва. Людзі прасілі перадаць кіраўнікам рэспублікі Кебічу і Шушкевічу, што яны павінны больш актыўна шукаць выйсце з цяжкага становішча.

У чатырох ці пяці выпадках чытачы звярнулі ўвагу на гандлёвае абслугоўванне. Жыхары вёскі Чырвоная Гомельскага раёна выказалі здагадку пра тое, што прадаўцы іх магазіна займаюцца нейкімі махінацыямі з таварамі, якія прыбываюць з базы. Маўляў, лепшае не трапляе вяскоўцам, а транзітам ідзе на рэчавы рынак. Толькі ж, не схапіўшы за руку, нельга сказаць "злодзей".

Тым не менш верыцца менавіта такім паведамленням. Бо паглядзіце вакол сябе і заўважыце тое ж, пра што гаварылі з Чырвонай: паліцы магазінаў пустыя, а на рэчавых рынках ёсць усё і па вар'яцкіх цэнах. Не з неба ж звальваюцца тыя тавары. Шкада толькі, што ні мясцовыя ўлады, ні праваахоўныя органы ўсур'ёз не займаюцца гэтай праблемай. Альбо не хочуць, альбо рукі не даходзяць. Здавалася б, у канцы мінулага года Міністэрства сувязі раз і назаўсёды вырашыла такую праблему, як выдача аліментаў, якія прыходзяць з краін блізкага замежжа. Тады было заяўлена, што ўсе абмежаванні ў гэтым плане здымаюцца. Але як балюча было слухаць, напрыклад, Алену Яўгенаўну Куцэйка з Гродна. Гадуе яна двое дзяцей. Свая зарплата маленькая, нават з прыработкам на траіх не хапае. Былы муж жыве на Украіне. Аліменты, праўда, высылае спраўна. Дык мала таго, што ў выніку пераводу ўкраінскіх купонаў у беларускіх "зайцаў" з той сумы застаецца насмешка, але і яе атрымаць нельга. Міністэрскі загад забараняе. Як тут ад роспачы не заплачаш. А колькі іх, пакрыўджаных бацькоў-адзіночак сёння ў суверэннай Беларусі?

Не ведаю, як каму, а мне вельмі шкада тых, хто калісьці звязаўся з ашчаднымі банкамі. Асабліва шкада пенсіянераў. Па чырвонцу збіраў, напрыклад, Сяргей Раманавіч Корзун 5 тысяч рублёў на чорны дзень. Зараз перад выхадам на пенсію і ўспамінаць тыя часы не хоча. Збэсціла ягоныя грошыкі дзяржава. І ніхто не панясе за гэта адказнасці. А каб 5 тысяч рублёў украў чалавек у дзяржавы, нават сённяшніх рублёў, невядома дзе б апынуўся.

Бадай, самы найбольшы боль у народа сёння — жыллё. Прычым хвалююцца і паляць нервовыя клеткі як тыя, хто мае сякі-такі вугал, так і зусім бяздомныя. Якіх толькі выкрутасаў не набачышся ад улад і людзей, што маюць дачыненне да будаўніцтва, размеркавання і абслугоўвання жылля. Прывяду толькі некалькі канкрэтных фактаў, пра якія ішла гаворка ў час прамой лініі.

На вуліцы Запарожскай у Мінску чатыры гады таму здалі дом. І роўна столькі жыхары жывуць без гарачай вады. Куды толькі ні хадзілі людзі. Як гарох аб сценку.

У Бабруйску людзі даўно ўжо выкупілі кааператыўныя кватэры ў адным з дамоў. Жыллё прыватызавалі. Але праўленне ЖСК патрабуе плату за сваё ўтрыманне. Спраўна, згодна з павышэннем цэн, растуць і расцэнкі. Зараз кожны жыхар плаціць аж па 60 рублёў у месяц. Затое ніякіх паслуг ад праўлення. Хочаш нешта падрамантаваць — шукай спецыяліста сам і выкладвай яму порцыю рублікаў са сваёй пенсіі, як Ганна Сцяпанаўна Бірчанка.

А ці ёсць якая прававая аснова ў тым, што жыхарам мікраёна Чыжоўка ў Мінску за дамы, падлягаючыя зносу, прапанавалі па 200 тысяч рублёў? Калі ж людзі адмовіліся, ім ужо прапаноўваюць па 600 тысяч.

Ды што тут казаць, вялікая неразбярыха ў жыллёвых пытаннях.

І ўсё ж невялічкую сваю справаздачу хачу закончыць на мажорнай ноце. Патэлефанавала мне Соф'я Ігнатаўна Затурэнская. Не скардзілася яна ні на пустыя паліцы, ні на цэны. Яе непакояць тыя абставіны, што ў суверэннай рэспубліцы трэба весці агітацыю за родную мову. "Гэта ў вышэйшай ступені абуральная з'ява, — гаварыла Соф'я Ігнатаўна, — жыць у краіне і не ведаць яе мовы. Я літоўка, а свабодна валодаю беларускай мовай. І сваю родную ведаю. Ні адна з іх мне не перашкаджае жыць. Трэба раз і назаўсёды кончыць дэбаты вакол мовы, а карыстацца ёю. І душы людскія пасвятлеюць. І лягчэй жыць стане...

Каб жа яе словы ды ў вушы тым, хто нігілістычна глядзіць на праблемы нацыянальнага адраджэння.

Народная газета

*Компетентное мнение*

# И окунется Беларусь во тьму,

## если мы вовремя не разберемся, в каком положении находится наша энергетика, что нужно сделать руководству республики, чтобы Беларусь избежала энергетического кризиса...

**(Окончание. Начало на 1-й стр.)**

Существует также точка зрения, что самый лучший способ решения энергетической проблемы — развивать экспортные отрасли экономики республики, а на вырученные деньги покупать электроэнергию. Но, во-первых, на электричество тратится не более 20—25 % топливных ресурсов в энергетике, остальное приходится на тепло, импортировать которое невозможно. Во-вторых, опыт соседней Литвы показывает, что при переходе к рынку именно электроэнергия является товаром, на который всегда имеется спрос без изнурительной и разорительной борьбы за качество, по крайней мере в рамках СНГ.

Таким образом, основным источником энергии в республике в настоящее время и в обозримом будущем могут быть лишь традиционная энергетика на органическом топливе и ядерная. При этом и современные теплоэлектростанции, и строящиеся, и проектируемые ориентированы на импортное сырье — газ, нефть, а в перспективе, возможно, и уголь. Образно говоря, кран от нашей энергетики, а значит, и экономики попрежнему будет находиться в чужих руках.

Разветвленная сеть газо- и нефтепроводов на территории Беларуси, исторически сложившаяся при организации широкомасштабного экспорта нефти и газа из СССР, создала благоприятные условия для производства энергии за счет этих видов топлива. Наличие двух мощных перерабатывающих заводов в Мозыре и в Новополоцке общей производительностью 40 млн. тонн нефти в год, при их полной загрузке могло бы несколько ослабить негативные последствия увеличения цены нефти за счет продажи в другие государства продуктов переработки (бензин, дизтопливо и др.). Однако объем поставки нефти снижен в 2 раза, и в результате продуктов переработки уже не хватает и для нужд республики. И по-прежнему из-за отсутствия выхода к морским портам основным поставщиком нефти в республику останется Россия.

Как было заявлено представителями России на состоявшемся в июне минувшего года в ЮНЕСКО круглом столе "Стратегия энергетических реформ Восточной и Центральной Европы", добыча нефти в России будет непрерывно сокращаться, что неизбежно отразится на ее экспортных возможностях. Кроме того, увеличение глубины переработки нефти наряду с ростом выхода бензина, керосина, дизельного топлива приводит к снижению выхода мазута — топлива для ряда теплоэлектростанций. Все это может поставить перед республикой задачу использования угля в производстве энергии, что значительно обострит экологическую ситуацию в Беларуси. Дело в том, что основной проблемой, возникающей при сжигании органического топлива, в особенности угля и мазута, является их отрицательное воздействие на природную среду и человека. В связи с этим, несмотря на принимаемые меры, в атмосферу выбрасывается огромное количество разнообразных вредных веществ: окислов серы, азота, углерода, пыли, тяжелых металлов, альдигидов и т. д. Особенно тяжелая ситуация на угольных теплоэлектростанциях. В результате работы одной такой станции мощностью 1 млн. кВт в атмосферу выбрасывается ежегодно 100—200 тысяч тонн окислов серы, 20—30 тысяч тонн окислов азота, образуется свыше 750 тысяч тонн золы, 7 млн. углекислого газа и так далее. В связи с этим на больших территориях в значительной степени возрастает кислотность дождей, гибнут леса, водоемы, падает уровень сельскохозяйственного производства, нарастает вероятность глобальных климатических изменений.

Следует отметить, что переход электростанций на угольное топливо связан не только с экологическими проблемами, но и с экономическими. Хотя разведанные угольные запасы России (210 млрд. т) превышают ресурсы нефти и газа вместе взятые, основные месторождения находятся в восточной ее части. Добыча угля в России с 1988 по 1991 год сократилась почти на 20 %, и чтобы перейти к увеличению ее, необходимо в 2,5—3 раза увеличить капиталовложения в отрасль по сравнению с нынешним уровнем. Кроме того, существующая транспортная сеть России до 1995 года не может пропустить более 20 млн. т канско-ачинских углей в год, в то время как к 2010 году потребность в их транспортировке на запад только для России составит 70—80 млн. т при сохранении программы развития атомной энергетики, а в случае введения моратория на новые АЭС — до 200 млн. т.

Подобная ситуация сложилась и в газовой промышленности России. С экологической точки зрения газовые ТЭС выглядят гораздо более благополучными. Однако если выбросы большинства вредных веществ на таких станциях значительно ниже, то количество углекислого газа практически не зависит от типа топлива. В целом же использование органического топлива во всех отраслях народного хозяйства республики "сбрасывает" на голову каждого жителя Беларуси 300—550 килограммов различных отходов в год или около килограмма ежедневно. И почти 15 % от этого количества составляют отходы энергетического производства. С развитием же традиционной энергетики и особенно при переходе на уголь эта величина резко возрастает. И если в отдаленной перспективе возможно в результате использования новейших средств газо- и пылеулавливания добиться снижения суммарного выброса вредных веществ в окружающее пространство, от потребления кислорода при сжигании органического топлива избавиться невозможно в принципе.

Большинство населения достаточно хорошо представляет себе эти проблемы традиционной энергетики, но далеко не все знают, что тепловые станции, работающие на угле, являются также и источниками радиоактивного заражения окружающих территорий. Так, ТЭС на угле мощностью 1 млн. кВт в радиусе 20 километров выбрасывает такое количество радиоактивных элементов, что приводит к увеличению загрязненности территории на 0,1 кюри/км$^2$ ежегодно или 7 кюри/км$^2$ за 70 лет жизни. Неудивительно, что министр экономики Германии заявил в конце прошлого года о необходимости резкого сокращения использования угольных станций в стране из-за экологического эффекта. Кстати, известно, что в результате работы таких станций количество радия в верхнем слое почвы во многих районах промышленно развитых стран Западной Европы возросло более чем в 50 раз по сравнению с естественным содержанием.

Итак, что же в результате? Конечно, речь не идет о том, что завтра вдруг нам перекроют источники топливно-энергетических ресурсов, республику охватит глубочайший энергетический кризис и придется использовать экологически вредные ресурсы. Что бы ни случилось, по каким бы ценам ни продавалось топливо, так или иначе покупать его придется. Естественно, что рост цен на энергоисточники сразу же скажется не только на стоимости энерготалона, но и на всей продукции народного хозяйства независимо от формы собственности. Необходимо отметить также, что проблемы энергообеспечения могут коснуться не только просто роста цен (потерпим и заплатим), но и привычных удобств. Примеры этого в СНГ и других странах общеизвестны. Если не хватает энергии, приходится и существенно сокращать продолжительность телерадиовещания, уменьшать объем пассажирских и грузоперевозок, составлять скользящие графики начала рабочего дня, выходных дней, останавливать энергоемкие производства, снижать температуру горячей воды в квартирах и многое другое. Неприятно, но это факт. По этим причинам вряд ли что-нибудь принципиально изменится в структуре производства энергии в Беларуси в ближайшем будущем.

Но что будет дальше? Ответ на этот вопрос чрезвычайно важен именно сейчас. В зависимости от того, какое будет принято решение, уже сегодня надо начинать готовить кадры и разрабатывать новые технологии, создавать, возможно, новые отрасли промышленности — вообще в рамках независимого государства закладывать базу и независимой энергетики, а значит, и экономики.

В этой статье мы не касаемся еще одной возможности — ядерной энергетики. В связи со сложностью этой проблемы, особенно для нашей республики после чернобыльской катастрофы, авторы хотели бы обсудить ее в отдельной публикации. Что же нам сейчас делать?

Вряд ли кто способен дать однозначный ответ. И политические, и экономические факторы в значительной мере не определены не только на ближайшие десятилетия, но и на ближайшие годы. Для того, чтобы не ошибиться, мы должны от эмоциональных оценок сложившейся ситуации и планирования перспективы перейти к рациональному, взвешенному подходу, проанализировав все "за" и "против" тех или иных путей развития энергетики республики, избегая скоропалительных выводов и заключений, основываясь прежде всего на знаниях и правдивой информации.

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб устанаўленні дыпламатычных адносін Рэспублікі Беларусь з Рэспублікай Інданезія, Рэспублікай Чад, Каралеўствам Непал, Рэспублікай Албанія, Ісламскай Рэспублікай Пакістан і Рэспублікай Эквадор

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ухваліць прапанову Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Інданезія, Рэспублікай Чад, Каралеўствам Непал, Рэспублікай Албанія, Ісламскай Рэспублікай Пакістан, Рэспублікай Эквадор.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

17 сакавіка 1993 г.
г. Мінск.
№ 2225-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прызнанні паўнамоцтваў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, выбранага 22 сакавіка 1993 года

Разгледзеўшы прадстаўленне Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прызнаць паўнамоцтвы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь **Шукшына Валерыя Сцяпанавіча**, выбранага 22 сакавіка 1993 года ад арганізацыі ветэранаў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

25 сакавіка 1993 г.
г. Мінск.
№ 2260-XII

*Беларусы свету*



### Многім з нас не зашкодзіла б павучыцца ў Эльжбеты!

— Я ўпершыню ў Віцебску, упершыню іду па гэтай старажытнай беларускай зямлі! — Эльжбета Безюк, карэспандэнт беларускай рэдакцыі польскага радыё ўзрушана і радасна аглядае старыя дамы, супрацьлеглы бераг Заходняй Дзвіны. — Ведаеце, як прыемна, адчуваючы сябе беларусам, знаходзіцца на беларускай зямлі!

Мы гутарым з Эльжбетай аб гісторыі Беларусі, аб яе сучасным стане, і расце, расце павага да гэтай беларускай дзяўчыны з Польшчы. І думаецца: вось бы так усе беларусы, якія з моманту свайго нараджэння жывуць на роднай зямлі, думалі аб ёй з такой цеплынёй і павагай, ведалі б так сваю гісторыю і культуру. Якіх бы вышынь мы дасягнулі!

Але большасць з нас пакуль што нават не ведае роднай мовы. Я гляджу на Эльжбету, і мне становіцца сорамна за ўсіх нас...

**Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.**

*Возмутительно*

# А как хотелось с немецким карабином поохотиться в лиозненских лесах...

**Андрей НИКОЛЬСКИЙ**

Председатель колхоза "1 Мая" Сенненского района М.Ковриженко дал "добро" на приобретение у польских граждан немецкого охотничьего карабина. Первый заместитель начальника управления сельского хозяйства Сенненского райисполкома Л.Хиревич так аргументировал необходимость этой интернациональной сделки: "В колхозе "1 Мая" имеется звероферма на 2300 голов норок маточного поголовья. В наше неспокойное время охранять такой объект с ружьем не только небезопасно, но и трудно подобрать охранника".

Судя по дальнейшим событиям, 19 декабря прошлого года агрессии на звероферму не ожидалось, и председатель правления колхоза М.Ковриженко, презрев необходимость вооружать охранника, вооружился карабином сам и выехал в другой, Лиозненский, район.

Но то ли разведка лиозненской милиции доложила точно, то ли слепой случай помог, но вооруженного председателя задержали вооруженные милиционеры. Перестрелки, к счастью, не было.

Цель своего визита в чужой район Ковриженко сформулировал кратко: на охоту. Документов на хранение и ношение карабина он показать не мог, потому что их в природе не существовало.

"Ввиду того, — защищал нарушителя все тот же Л.Хиревич, — что за такой короткий срок правление колхоза не смогло взять разрешение на данное оружие".

Не знаю, как отнесутся к сей огнестрельно-опасной выходке компетентные органы. Вполне возможно, что снисходительно: у М.Ковриженко давняя добрая связь с Сенненским РОВД. Работник милиции А.Силиченко, например, приобрел в колхозе "1 Мая" автомашину ГАЗ-53 за 3 тысячи рублей, хотя в апреле прошлого года ее цена была вдвое больше.

Правда, это не единственный "благотворительный" жест М.Ковриженко. Именно он дал согласие на покупку автомобиля ВАЗ-21063 главному инженеру Витебского лесхоза Г.Exновцу за 9 тысяч рублей. Недоплата тут выглядела внушительнее — 100 тысяч рублей. Трактор в этом хозяйстве по дешевке купил житель Прибалтики, автомобиль "Нива" — житель Минска... А местным жителям что? Кукиш с маслом.

А куда же идти с бедой своей? В управление сельского хозяйства, в райисполком? Первым учреждением руководит очень озабоченный человек В.Логунов. Вместе со своей женой — заместителем председателя райисполкома В.Логуновой — начальник думает, как достроить личный дом. Нет, они не бездомные, квартира у них из трех комнат, но если начальство сейчас не строит себе дом, то какое же это начальство? Строительство — это в первую очередь возможность достать. Логуновы начали с силикатных блоков, облицовочной плитки, оцинкованного листа, отопительных радиаторов, сантехоборудования. Видимо, брали все, что было в тот момент на подведомственном Богушевском спиртзаводе. Надо полагать, что это "злачное" предприятие уже построило для всех своих работников особняки.

С Логуновой, как с зампреда, взяли немного — 7655 рублей. После уже начали подсчитывать по-настоящему. Оказалось, что спиртзавод стыдливо не насчитал покупательнице еще 339 тысяч рублей.

Да, легко с такими помощниками дома-терема строить. Спиртзавод — он ведь не единственный. Выделила райагропромтехника Логуновой кран и бульдозер на 2 дня и не посчитала нужным брать плату по полному тарифу. Хотя в "благотворительности" спиртзавод они не догнали, "подарили" что-то около семи тысяч.

А мы шумим, спорим — есть "красные помещики" или нет. Да не надо спорить. Лучше присвоенные, украденные, припрятанные деньги искать. Авось кто-нибудь покраснеет. Не от стыда — сие сомнительно. От полной меры справедливого наказания.

*На арбіце дружбы*

### „Лявоніха" ў выкананні дыпламатаў

**Гэта быў не звычайны вечар. У Доме дружбы з замежнымі краінамі сабраліся дыпламаты пасольстваў, якія ўжо прапісаліся ў Мінску. Яны прыйшлі на "беларускія вячоркі".**

Іх цёпла віталі артысты ансамбля "Крупіцкія музыкі". Дыпламаты паслухалі народныя песні, пазнаёміліся з нацыянальнай кухняй, прынялі ўдзел у народных гульнях і нават развучылі „Лявоніху" і „Беларускую польку". Асабліва спадабаўся ім першы танец, яго выконвалі двойчы запар.

На добры лад — гэта першая ластаўка павінна стаць традыцыяй. Думаецца, што і ўраду, і Міністэрству замежных спраў не пашкодзіла б падсобіць Таварыству дружбы з замежнымі краінамі ў такой справе.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

*Нам стала вядома*

### Будзем друкаваць па-беларуску

**Першыя пішучыя машынкі з беларускім шрыфтам паступяць з Італіі гэтым летам, паведаміў прадстаўнік фірмы "Тусон", якая з'яўляецца афіцыйным дылерам сусветнага гіганта індустрыі аргтэхнікі — італьянскай фірмы "Аліveці".**

Цікава, што ў многіх іншых рэспубліках былога Саюза ажыццяўленнем такіх заказаў займалася дзяржава. У нас жа ініцыятарам выступіла фірма "Тусон", якая сумесна з Інстытутам мовазнаўства АН Беларусі зрабіла неабходныя распрацоўкі і дагаварылася з італьянскім бокам. Гэта, між іншым, не здзіўляе, паколькі попыт на такую прадукцыю няўхільна расце, і можна з упэўненасцю сказаць, што фірма не прайграе.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ.**

### Перакуем МІГі на... запчасткі

**Праз некалькі дзён на базе "Лясная" паблізу Баранавічаў успыхне зварка, салдаты і афіцэры беларускай арміі возьмуць у рукі спецінструменты, каб пачаць разборку вузлоў і знішчэнне фюзеляжаў баявых самалётаў МІГ-27.**

Толькі на першым этапе Беларусь абавязана ліквідаваць іх дзесяць адзінак у адпаведнасці з Міжнародным дагаворам па звычайных узброеных сілах у Еўропе (ЗУСЕ).

Як растлумачылі карэспандэнту Белінфарма ў Нацыянальным агенцтве па кантролю і інспекцыях, прыгодныя для далейшай эксплуатацыі вузлы і агрэгаты будуць складзіравацца авіятарамі для абслугоўвання самалётаў, якія не падлягаюць знішчэнню. Частку атрыманых пры разборцы матэрыялаў прададуць у народную гаспадарку праз камерцыйнае ўпраўленне МА рэспублікі.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ.**

### Амерыканцы нас падтрымліваюць. Харчамі

**Знешнепалітычнае ведамства рэспублікі атрымала прыемнае паведамленне з пасольства Беларусі ў ЗША.**

Міністр сельскай гаспадаркі ЗША Майкл Эспі, гаворыцца ў ім, зрабіў заяву аб бязвыплатнай перадачы Беларусі 212 тысяч тон сельскагаспадарчай прадукцыі, у тым ліку масла, алею, рысу, мукі, бабоў, дзіцячага харчавання і г.д.

У заяве амерыканскага міністра падкрэсліваецца, што гэты акт сведчыць аб той падтрымцы, якую ЗША аказваюць і будуць у далейшым аказваць беларускаму народу як найбольш пацярпеўшаму ў выніку чарнобыльскай катастрофы, а таксама ўрада рэспублікі ў яго намаганнях па ўмацаванню ролі прыватнага сектара, асабліва ў сельскай гаспадарцы.

**Белінфарм.**

*Турыстам і камерсантам*

### З польскай мовай будзе ўсё ў парадку

Анатоль Клышка падрыхтаваў і выдаў "Беларуска-польскі размоўнік". Ён разлічаны на тых, хто ездзіць у Польшчу па справах і не ведае мовы. З раздзелаў даведніка яго ўладальнік лёгка засвоіць найбольш ужывальныя выразы, навучыцца правільна разумець надпісы, вывескі, шыльды ў горадзе, будзе ведаць, як павесці гутарку ў магазіне, на пошце, у рэстаране, на вакзале.

**Міхась КЕНЬКА.**

*Бюракратыя бессмяротная*

# Ільготы, якія псуюць нервы

**Віктар ХАРОШКА**

Калі Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Закон "Аб ветэранах", многія з іх засталіся вельмі задаволенымі. Аптымізм людзям надавала заклапочанасць дзяржавы жыццём пажылых людзей, бадай, найменш абароненых у сацыяльным плане.

Напрыклад, каб аформіць 50-працэнтную скідку на аплату тэлефона, трэба паўжыццця пакласці, як Вацлаў Францавіч Барэйка з Мінска.

Пачытаўшы закон, пайшоў ён у родны ЖЭС-34. Там уважліва паглядзелі ў дакументы і насупраць усіх відаў камунальных паслуг паставілі льготныя цэны. Толькі тэлефонны радок пакінулі пустым.

— А каб зрабіць тут запіс, ідзіце, шаноўны, на раённы вузел сувязі і прынясіце адпаведную даведку.

У вузле сувязі адстаяў паўдня. Але каб атрымаць даведку, мусіў пісаць заяву з просьбай зрабіць скідку на абанентную аплату. Свайго пашпарта і пашпарта жонкі было мала. Каб атрымаць даведку для ЖЭСа, на вузел сувязі трэба дадаткова прынесці абедзве працоўныя кніжкі, абодва ветэранскія пасведчанні, абодва пенсіённыя пасведчанні і копію асабовага рахунку, за якой, дарэчы, трэба адстаяць яшчэ ў адной добрай чарзе, а трапіць у яе можна не кожны дзень. А калі дадаць да гэтага, што падобную працэдуру трэба рабіць два разы ў год, валасы дыбам падымаюцца.

За тыдзень Барэйка з задачай не справіўся. Па-першае, не хапіла часу на ўсе чэргі. А па-другое, не стае здароўя. Бо Вацлаву Францавічу нядаўна споўнілася 85 гадоў, а яго жонцы, якая сама па інстанцыях хадзіць ужо не можа, — 80.

Разнерваваны пенсіянер у канцы размовы толькі махнуў рукой. Такіх, як Вацлаў Францавіч, тысячы. Дзесяткі з іх ужо звярнуліся ў рэдакцыю за дапамогай. Дык, можа, бюракраты з ЖЭСаў, выканкамаў і іншых устаноў, дапаможам ветэранам хоць бы ва ўспакаенні іх нерваў?

*Ліст чарнобыльцаў*

# "Жывём, як у бетонных халадзільніках..."

Усю зіму мы спім у хатах не распранаючыся: не хапае паліва, каб нагрэць "бетонны склеп". Увялі жорсткі ліміт: дзве тоны вугалю альбо дзве з паловай брыкету — і не больш.

Мясцовая ўлада кажа нам: "Будуйце самі печы, тады будзе цяплей". Як жа гэта зрабіць у двухпавярховым катэджы на дзве сям'і? Дзе гарантыя, што пліты перакрыцця вытрымаюць гэтыя печы?

Выйсце бачна толькі адно — будаваць магутную кацельню для ўсіх катэджаў. Інакш не набрацца паліва, якое зараз каштуе вельмі дорага. На сезон яго патрэбна не менш як 10 тон, каб падтрымліваць больш-менш нармальную тэмпературу ў кватэрах. Дарэчы, катэджы пабудаваны з масай недаробак. У падлозе, вакол аконных рам вялікія дзіркі, з якіх свішча вецер, са сцен адвальваецца тынкоўка...

У дадатак да ўсяго гэтага не хапае газу для кухні. А варыць ежу на электраплітках — дорага, не хопіць ніякіх грошай. Дырэктар саўгаса "Даўгінава" Станіслаў Млечка на нашы просьбы дапамагчы з палівам і газам ужо не рэагуе. Што яму да "іншаземцаў", сярод якіх шмат пенсіянераў, сем'яў з малымі дзецьмі? Нашы скаргі разглядалі ў райвыканкаме, прыязджаў нейкі начальнік з Мінска, але нічога не змянілася. Хоць вяртайся назад...

**ГЛУШАКОЎ, КАНДРАЦЬЕЎ, МЕШКУНЕЦ і інш.**

**— усяго 10 подпісаў перасяленцаў з Гомельшчыны.**

*Вёска Даўгінава Вілейскага раёна.*

